*Адзін чалавек можа зрабіць болей, чым цэлая дзяржава.*
*(Чытайце на 8-й стар. артыкул «Абуджэнне Станіслава Цыбінскага»).*

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадо...*
**Якуб КОЛАС**


**№ 71 (4426)**

10 верасня 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.


**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

# Народная Воля

## Не здрадзьце «Народнай Волі»!

Калі Вам трэба прадоўжыць падпіску на «Народную Волю» на кастрычнік, зрабіце гэта, калі ласка, да 26 верасня.

Поўным ходам ідзе падпіска і на ўвесь чацвёрты квартал.

**Вы – з «Народнай Воляй», «Народная Воля» – з Вамі!**

ПАДЗЕЯ

## Учора Мінск у чарговы раз стаў арэнай сусветнага спорту

ЛЁГКААТЛЕТЫЧНЫ МАТЧ ЕЎРОПА - ЗША

Упершыню ў гісторыі лёгкай атлетыкі ў Беларусі пройдзе матч мацнейшых сусветных зборных Еўропы і ЗША.

*Ініцыятарам правядзення матчу стаў прэзідэнт Еўрапейскай лёгкаатлетычнай асацыяцыі Свен Арнэ Хансэн. Такія спаборніцтвы не праводзіліся з 1960-1970-х гадоў, калі вялікая ўвага была прыкавана да міжнародных матчавых сустрэч, такіх як матч СССР - ЗША.*

Даты:
9-10 верасня 2019 года

EUR
USA

Месца правядзення:
Нацыянальны алімпійскі стадыён "Дынама"

Чакаецца ўдзел каля 300 спартсменаў. У кожным відзе праграмы выступяць па 8 атлетаў (4 прадстаўнікі ад Еўропы і 4 - ад ЗША).

СПАРТЫЎНЫЯ ДЫСЦЫПЛІНЫ

кіданне молата
бег на 3000 м з перашкодамі
кіданне дыска
трайны скачок
эстафета 4х100 м
кіданне кап'я
бег на 100 м, 400 м, 800 м, 1500 м і 3000 м
скачок у вышыню
штурханне ядра

Пасламі спартыўнай падзеі з'яўляюцца тры зоркі сусветнага ўзроўню*
*чэмпіёны свету і Еўропы*



Раміль Гуліеў (Турцыя)


Марыя Ласіцкене (нейтральная спартсменка з Расійскай Федэрацыі)



Кацярына Стэфанідзі (Грэцыя)

Крыніцы: Беларуская федэрацыя лёгкай атлетыкі, афіцыйны сайт матчу http://www.europe-usa.com

© Інфаграфіка БЕЛТА

ВЫБАРЫ-2019

## Паехалі!

*8 верасня пачалося вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу сёмага склікання. Яно працягнецца па 7 кастрычніка.*

Прэтэндаваць на месца ў парламенце мае права чалавек, якому споўніўся 21 год. Неабходна таксама пастаянна жыць у Беларусі, не мець судзімасцяў. Кандыдат у дэпутаты можа вылучацца трыма спосабамі: шляхам збору подпісаў, ад палітычнай партыі, працоўнага калектыву. Заканадаўства дазваляе выбраць адзін або некалькі спосабаў.

Для таго каб вылучыцца шляхам збору подпісаў, на тэрыторыі сваёй акругі трэба сабраць іх не менш за тысячу. Гэтым займаецца ініцыятыўная група, у яе складзе павінна быць не менш за дзесяць чалавек. Рэгіструюць групы ў акруговых выбарчых камісіях, яны ўжо сфарміраваны і прыступілі да працы, паведамляе БЕЛТА.

Яшчэ адзін спосаб вылучэння – на з'ездах палітычных партый. У краіне іх зарэгістравана 15. Яны могуць вылучаць кандыдатаў па ўсіх 110 акругах незалежна ад наяўнасці там аргструктур.

Працоўны калектыў мае права вылучыць аднаго кандыдата па той акрузе, на тэрыторыі якой знаходзіцца прадпрыемства. Пры гэтым на ім павінна працаваць не менш за 300 чалавек.

Выбары ў Палату прадстаўнікоў прызначаны на 17 лістапада, у Савет Рэспублікі – на 7 лістапада.

ПАЗІЦЫЯ

## «Еўрапейская Беларусь» замахнулася на змену ўлады...



Сябры грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь» даўно рэкламуюць сябе як прынцыповыя апазіцыянеры. Яны гуртуюцца вакол такіх вядомых палітыкаў, як Андрэй Саннікаў, Зміцер Бандарэнка, Мікола Статкевіч. Праўда, першыя двое знаходзяцца за мяжой і, хутчэй за ўсё, не змогуць узяць удзел у парламенцкай кампаніі, як, дарэчы, і М.Статкевіч, з якога яшчэ не знята поўнасцю судзімасць.

У той жа час «Еўрапейская Беларусь» заявіла аб вылучэнні сваіх прэтэндэнтаў на дэпутацкія мандаты. Яе актывісты ўжо з 8 верасня збіраюць подпісы, з тым каб зарэгістраваць сваіх кандыдатаў у парламент. Кампанія распачата пад лозунгам неабходнасці змены ўлады.

– Наша задача – гэта змена ўлады на ўсіх узроўнях, адстаўка Лукашэнкі і яго чыноўнікаў, закрыццё Астравецкай атамнай электрастанцыі, забеспячэнне дастойнымі заробкамі людзей на радзіме, правядзенне чэсных свабодных выбараў, – кажа каардынатар грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь» **Яўген Афнагель**, які вырашыў балатавацца ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў.

Па 110-й выбарчай акрузе збірае подпісы за вылучэнне ў дэпутаты вядомая журналістка **Ірына Халіп**. Такую ж мэту паставілі перад сабой **Максім Вінярскі** і іншыя прыхільнікі грамадзянскай кампаніі.

Цікава: як будуць рэагаваць улады на рашучыя крокі сяброў «Еўрапейскай Беларусі»?

**Казімір КРАЎЦЭВІЧ.**

ПОЛИТКУХНЯ

## Андрей Савиных идет в депутаты

*Чрезвычайный и Полномочный Посол Республики Беларусь в Турции Андрей Савиных будет баллотироваться по Чкаловскому избирательному округу №96.*

Андрею Савиных 57 лет. Владеет английским и французским языками. Женат, имеет дочь.

Он окончил Минский государственный педагогический институт иностранных языков (магистр лингвистических наук), Институт повышения квалификации и переподготовки руководящих кадров при Белорусском государственном институте народного хозяйства (магистр бизнес-администрирования), а также Британский институт сертифицированных менеджеров (диплом в сфере финансового менеджмента и финансового анализа).

С 2010-го по 2013 год Савиных был начальником управления информации – пресс-секретарем МИД Республики Беларусь. Последние шесть лет он Чрезвычайный и Полномочный Посол Республики Беларусь в Турецкой Республике.

Сейчас Андрей Савиных находится в Минске. Почему он решил завершить дипломатическую карьеру и пойти в депутаты – точно не известно. Не исключено, что Савиных думает не только о законодательных перспективах, но и о собственной пенсии.

**Вера ВИР.**

ФЭСТ

## 100.000 куфляў піва – за Гедыміна!

За здароўе князёў, цароў і прэзідэнтаў заўсёды знойдзецца каму выпіць. Галоўнае – каб было пітво. Колькасць бровараў і прыдарожных корчмаў у Вялікім Княстве Літоўскім сведчыць, што нашы продкі не былі заўзятымі цвярэзнікамі. Але, думаецца, за ўсіх князёў ВКЛ, што займалі вялікакняскі сталец на працягу стагоддзяў, не было выпіта столькі медавухі, колькі спажылі хмельнага напою пад здравіцы Гедыміну дзясяткі тысяч лідчан і гасцей горада падчас фэсту «Lidbeer-2019», што прайшоў у Лідзе 7 верасня.



І была ж нагода – на плошчы перад замкам паўстаў конны помнік вялікаму князю, якога гісторыкі лічаць самым паспяховым кіраўніком ВКЛ. За часы княжання Гедыміна княства больш як удвая павялічыла сваю тэрыторыю, упершыню ў адзінай дзяржаве былі сабраны ўсе асноўныя гістарычныя вобласці Беларусі – Панямонне, Брэстчына, Турава-Піншчына, Полаччына і Віцебшчына, што ў будучыні істотна паспрыяла нацыянальнаму гуртаванню і гартаванню беларускага народа.

Шасціметровы помнік (аўтары – Вольга Нячай і Сяргей Аганаў) быў адкрыты на запоўненай народам плошчы пад воклічы «Жыве Беларусь!» і гукі сярэдневяковай дуды. Над людскімі галовамі луналі дзяржаўныя і нацыянальныя сцягі, прычым бел-чырвона-белых было значна больш. І ні ў кога гэта не выклікала ні раздражнення, ні панікі, сцяганосцаў не затрымлівала міліцыя. Што ж, аддамо належнае лідскім уладам, – яны зразумелі, якая сімволіка прыйдзецца «да твару» Гедыміну.

На трохтонны бронзавы помнік лідчане спачатку збіралі грошы (добрая справа – агульнагарадская складчына!), пакуль не з'явіўся багаты фундатар – беларуска-літоўскае прадпрыемства «Белтэкс Оптык», якое цалкам прафінансавала праект. Кіраўнік яго лідскага філіяла Алег Матусевіч адмовіўся агучыць затрачаную суму, але прызнаўся, што зрабіць такі незвычайны падарунак Лідзе для «Белтэкс Оптык» было справай гонару.



Цэлы дзень Ліда літаральна віравала – на цэнтральных вуліцах, ператвораных у кіламетровыя прылаўкі, ішоў бойкі гандаль самымі разнастайнымі таварамі з нацыянальным каларытам – ад кубкаў з выявамі Каліноўскага і Купалы да цішотак з Пагонямі і тым жа помнікам Гедыміну (вытворцы спрацавалі аператыўна). У замку ішлі рыцарскія турніры (перад брамай стаяла чарга ахвотнікаў туды патрапіць), над горадам кружыў экскурсійны верталёт, квіток на які каштаваў усяго 25 рублёў, па возеры вазіў пасажыраў старажытны човен-дракар, на ходніках выступалі музыкі і спевакі, у якіх ніхто не патрабаваў гастрольных пасведчанняў.

Карыстаючыся момантам, лідскі бард Сяргей Чарняк сеў проста пасярод вуліцы і так імпэтна зайграў на гітары і заспяваў беларускія хіты, што прахожыя спыняліся і тут жа кідаліся ў скокі. Тым часам вакол замка гуло тысячагалосае піўное застолле, гледзячы на якое мне прыгадаліся радкі Уладзіміра Караткевіча: «*Нам ёсць што піць, / з падмосткаў ліць, / чым палі свае акрапіць, / а як давядзе, / то ёсць нам дзе / і ворага ўтапіць!*».

Паводле слоў арганізатараў традыцыйнага ўжо фэсту (сёлета ён праходзіў пятым разам), за святочны дзень звычайна выпіваецца каля 50.000 літраў піва, гэта прыблізна 100.000 куфляў. Нягледзячы на колькасць выпітага, ніхто пад кустом не ляжаў, не брыдкасловіў. Да позняга вечара не сціхалі застольныя дыскусіі (у тым ліку на гістарычныя тэмы – з аглядкай на помнік), выступленні рок-гуртоў (не шкадую, што паслухаў папулярную «Akutu»).

Свята аціхла, піва закончылася, верталёт адляцеў на базу, рыцары раз'ехаліся. А перад адрэстаўраваным замкам застаўся князь Гедымін на кані, відаць, таксама трохі захмялелы ад безлічы тостаў у свой гонар. Тыя тосты асабіста мне дадалі нацыянальнага аптымізму, бо «за Гедыміна» ў Лідзе азначала – «за Беларусь», за яе гісторыю і будучыню. Давядзецца быць у гэтым старажытным горадзе – падтрымайце і вы добрую традыцыю.

**Антон ЗАГОРСКІ.**

СКАЗАНА!

## Прэзідэнт Літвы выказаўся за палітычны дыялог з Беларуссю

Палітычны дыялог Літвы з Беларуссю пры ўсіх існуючых рознагалоссях паслужыць інтарэсам абедзвюх краін. Аб гэтым заявіў прэзідэнт Літвы Гітанас Наўседа, паведамляе ТАСС.

«Нельга не ўлічваць разыходжанні ў меркаваннях па атамнай электрастанцыі, якая будуецца ў Астраўцы, і па іншых пытаннях, але неабходна завязаць нармальныя кантакты», – сказаў Гітанас Наўседа.

На яго думку, ігнараваць суседнюю краіну неразумна. «Ненармальна жыць, адгарадзіўшыся акопамі, і не заўважаць, што побач існуе сусед», – адзначыў прэзідэнт Літвы.

Адносіны з Беларуссю, якія склаліся пры прэзідэнцтве Далі Грыбаўскайтэ, ён ахарактарызаваў як замарожаныя. «Не ведаю, ці будзе для нас карысна, калі такое становішча прадоўжыцца», – сказаў літоўскі лідар.

Гітанас Наўседа заклікаў адмовіцца ад двайных падыходаў, якія практыкуюцца ў эканоміцы, з аднаго боку, і ў палітыцы – з іншага. «У нас з Беларуссю эканамічныя, лагістычныя сувязі, немалыя літоўскія інвестыцыі ў Беларусі, але калі размова заходзіць пра палітычны дыялог, тады ўсе пачынаюць пераглядвацца і імкнуцца хутчэй адвярнуцца ўбок», – адзначыў ён.

Літоўскі лідар лічыць, што трэба пачынаць з малога: «Пачнём асцярожна, пакрыху». Паводле яго слоў, многае таксама залежыць ад жадання Беларусі супрацоўнічаць.

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

# Травить не будут!

Председатель Брестского облисполкома Анатолий Лис в интервью одному из белорусских телеканалов 8 сентября успокоил жителей областного центра: «Когда Министерство природных ресурсов и охраны окружающей среды сделало замеры и подтвердило это, мной было принято решение о приостановлении строительства и ввода его в эксплуатацию. Как я сказал глава государства, завод с нарушениями введен не будет независимо от того, кто будет его собственником. Людей травить не будем».

Спасибо, успокоил. Травить людей он не будет.

Речь идет о пресловутом заводе по производству аккумуляторных батарей, против которых почти полтора года выступали брестчане. Их, правда, не травили, но протоколы о правонарушениях составляли, некоторых задерживали, некоторых штрафовали. Лидеры локального, казалось бы, протеста превратились в персон вполне узнаваемых и популярных. Все правильно: экологическая проблематика затронула интересы каждого жителя города над Бугом. «Народная Воля» неоднократно писала об этом конфликте.

Более года митинговал и украшался пикетами Брест. Но реально прислушались к голосу протестовавших, который в этот момент был и голосом разума, только накануне больших праздников. Первое из них уже прошло – 1000-летие Бреста. Впереди еще два – парламентские и президентские выборы. Судя по всему, до них ситуация однозначно будет разрешаться в пользу брестчан. Главный признак этого – заявление главы государства: «Это того не стоит, чтобы гнобить людей и гадить экологию. Мы начинаем вычищать, вымывать страну, и на тебе – ложка дегтя. Поэтому я видел там уголовные дела и жестко поручил соответствующим должностным лицам заняться этим вопросом. Когда поняли, что президент держит на контроле, руками развели и отправили в места не столь отдаленные несколько человек. Остальные в бегах – ищем. Вернее, мы знаем, где они, – привезем домой, это не вопрос. И спросим на всю катушку».

Замечательное по своей откровенности высказывание. Дело не стоит того, чтобы гнобить или, как выразился губернатор Лис, травить людей. Завод построили – и уже после этого стали выяснять, будет он травить людей или не будет. Но ведь была экспертиза проекта. И все государственные службы дружно расписались в том, что травить никто никого не будет, а завод строить стоит. Там на документации подписи должны стоять. Чьи подписи? Кто разрешал строительство? На основании чего? Власть, в точности как пресловутая «птица-тройка» в поэме Гоголя, «не дает ответа», хотя этот вопрос – первый, который должен ее волновать. Судя по всему, разрешение на строительство было не просто оформлено в соответствии с законодательством, но еще и сопровождалось активной пропагандистской кампанией: дескать, вот важный инвестиционный проект, мы создаем рабочие места, это будет прорыв в экономическом развитии региона!

Но хитрый Лис в своих комментариях обходит этот вопрос. Он просто говорит: завод с нарушениями введен не будет. А на какой именно стадии эти нарушения выявились? Они ведь уже при анализе проекта должны были всплыть – как дохлая рыба, вверх животом, чтобы всем видно было. Но тогда проект получил и поддержку, и разрешение на реализацию. В результате чьей-то некомпетентности или умысла?

Имена, господа начальники, назовите общественности имена – кто, что и почему разрешил с нарушениями! Ибо несколько человек уже отправили, как выразился глава государства, в места не столь отдаленные. Но о суде над этими злостными нарушителями я все еще ничего не читал в прессе. Тогда на основании чего их туда отправили? И – отправили ли вообще? Не для того ли, чтобы накануне знакового юбилея Бреста и парламентских выборов сбить волну протестов?

Показательно, что практически одновременно с праздничными торжествами по поводу 1000-летия Бреста акция противников строительства завода все-таки прошла. Судя по всему, активисты понимают, что она может стать и последней, что им разрешили беспрепятственно выразить недоверие властям, «внезапно услышавшим» их голоса, в последний раз. А закончился юбилей, пройдут парламентские выборы – и дальше народу позволят выражать только всеобщий «одобрям-с» по поводу проводимой государственными служащими всех уровней политики. И тот же завод – снова «внезапно!» – окажется просто необходимым для роста экономических показателей в области, а все недостатки по мановению волшебной палочки будут ликвидированы.

А будут они на самом деле ликвидированы или нет – кто вам скажет? Вам ведь сегодня и имена ответственных и наказанных не называют. Знают все, что владельца задержали, но за что – ни гу-гу, а насчет ареста остальных, простите, – высочайшее «бла-бла-бла». Не более.

А потому брестчане, не исключено, будут по-прежнему выходить на улицы и демонстративно кормить голубей – в знак протеста. Эта птичка гадит меньше любого бестолкового чиновника, хотя иногда и на голову. Потому пожелаем кормящим успеха в их благородном начинании.

СТАЛА ВЯДОМА...

## Недаатрымана 23 мільёны долараў з-за сітуацыі з бруднай нафтай

ААТ «Гомельтранснафта Дружба» недаатрымала 23 млн долараў выручкі з-за сітуацыі з бруднай нафтай. Аб гэтым сказаў генеральны дырэктар прадпрыемства **Алег Барысенка** ў інтэрв'ю парталу «Нафтахімія».

«Доўгае спыненне работы нафтаправода негатыўна паўплывала на фінансава-гаспадарчую дзейнасць ААТ «Гомельтранснафта Дружба» і прывяло да недаатрымання выручкі ў памеры 23 мільёнаў долараў. Абавязковай умовай для аднаўлення даходаў стала давядзенне аб'ёмаў перапампоўваемай нафты на ўзровень года да запланаваных або павелічэнне тарыфаў», – сказаў Алег Барысенка.

У час перагавораў з расійскімі партнёрамі ўдалося дасягнуць дамоўленасці аб неабходнасці павышэння тарыфаў на транспарціроўку нафты праз Беларусь. «Прынята рашэнне, што з 1 верасня 2019 года яны будуць павялічаны на 3,7 працэнта. Разам з гэтым расійскі бок узяў на сябе абавязацельствы імкнуцца да аб'ёмаў прапампоўкі, якія забяспечаць ААТ «Гомельтранснафта Дружба» выручку ў адпаведнасці з бізнес-планам на 2019 год.

ПОЛИТКУХНЯ

Игорь БОРИСОВ:

# «Если не заплатим, придут описывать имущество…»

*Политики Николай Козлов, Ольга Ковалькова, Юрий Губаревич и Игорь Борисов, которые выступали заявителями концерта в Киевском сквере накануне Дня Воли, обжаловали решение суда Московского района Минска об удовлетворении иска минской городской милиции.*

Напомним, что, согласно решению суда, политики должны заплатить более 8000 рублей за услуги милиции по организации безопасности во время концерта.

– Наши основные аргументы следующие: в мотивировочной части решения, которую мы получили, суд вообще не обратил внимание ни на один наш довод, – *объясняет «Народной Воле» председатель Белорусской социал-демократической партии (Грамада) Игорь Борисов*. – Там представлены аргументы исключительно другой стороны – милиции. А наши полностью проигнорированы. Второй момент – это то, что неустойка, которую они нам насчитали, значительно превышает ставку рефинансирования!

Когда будет назначена дата разбирательства, пока не известно, потому что мы подали жалобу только пару дней назад.

Если Мингорсуд оставит решение в силе, тогда у нас будет 30 дней на оплату этих штрафов. И если мы не найдем деньги, то тогда придут судебные исполнители описывать имущество.

**– Вы верите, что суд примет во внимание ваши аргументы?**

– Посмотрим. Мы считаем, что услуги милиции уже оплачены налогоплательщиками, организаторы акций не должны оплачивать их повторно! Иначе получается двойное налогообложение. К тому же нам выставили двойной счет, потому что количество участников акции превысило заявленную цифру. Но при этом не был увеличен штат сотрудников милиции, которые работали на акции. Это попытка просто заработать двойной куш за одну и ту же работу. Власть просто любыми способами хочет отбить желание у политиков организовывать массовые мероприятия.

**Марина КОКТЫШ.**

СТАЛА ВЯДОМА...

# Ліст Мікалая Шарамета Уладзіміру Кухараву

*У інтэрнэт трапіў ліст кіраўніцтва Саюза будаўнікоў Беларусі на імя віцэ-прэм'ера Уладзіміра Кухарава, які быў падрыхтаваны на пачатку года. У ім распавядалася пра крызіс у галіне будаўніцтва: амаль усе будаўнічыя арганізацыі краіны сталі або стратнымі, або працуюць на мяжы нізкай рэнтабельнасці.*

Belsat.eu вывучыў гэты дакумент і запытаўся ў экспертаў, чаму склалася такая сітуацыя.

### Заробкі знізіліся амаль удвая

Старшыня Саюза будаўнікоў Рэспублікі Беларусь Мікалай Шарамет адзначыў, што ў галіне назіраецца рэзкае скарачэнне персаналу, у першую чаргу кваліфікаваных кадраў. З 2014 года колькасць работнікаў у будаўніцтве скарацілася амаль на чвэрць.

«Прэстыж будаўнічай прафесіі падае», – канстатаваў аўтар ліста.

Гэтая з'ява наўпрост звязана з нізкімі заробкамі будаўнікоў. Калі ў 2010 годзе ў будаўніцтве працавала 318 тысяч чалавек з сярэднім заробкам 1000 долараў, то на студзень 2019 года там засталося крыху менш за 195 тысяч пры сярэднім заробку ў 500 долараў (паводле звестак Белстата, сярэдні заробак будаўнікоў на стане на ліпень склаў 1271,5 рубля, або прыкладна 625 долараў). У зварооце адзначалася, што заробкі будаўнікоў у Беларусі ў 1,3–2,4 разу ніжэй, чым у расійскіх будаўнікоў, у 1,8–3,3 – чым у польскіх, і ў 1,7–5,8 разу – чым у літоўскіх.

### «Навошта шум узнімаць?»

У каментары belsat.eu Мікалай Шарамет не стаў аспрэчваць сапраўднасць ліста, але выказаў абурэнне ўцечкай інфармацыі.

«Я не ведаю, хто гэта ў інтэрнэт дае! Я цяпер дам каманду службе бяспекі, каб гэта ўсё (*хто «зліў» дакумент. – **belsat.eu***) зараз знайшлі, я падам на іх у суд».

Старшыня Саюза будаўнікоў Беларусі не адказаў на пытанне, якая была рэакцыя на ягоны ліст з боку віцэ-прэм'ера. Ён запэўніў, што сітуацыя ў сферы будаўніцтва не з'яўляецца экстранай:

«Ніводнага пытання ўрад не пакідае без разгляду. Навошта шум узнімаць?»

### Будаўнічы рынак – адзін з самых падзеленых у краіне

Сітуацыю, якая склалася на беларускім будаўнічым рынку, эканаміст, кіраўнік Фонду Мізеса Яраслаў Раманчук звязвае з няроўнымі ўмовамі канкурэнцыі.

«У будаўнічай сферы Беларусі ёсць гульцы з асобым статусам, чыя рэнтабельнасць зашкальвае – яна дасягае амаль 70 працэнтаў. Гаворка, напрыклад, пра Dana Holding, які будуе аб'екты на сербскія грошы. Калі з'яўляецца гулец, які мае такія варункі працы, безумоўна, гэта адбіваецца на тым, што іншым не хапае рэсурсу.

Калі нехта скардзіцца, што не можа працаваць, а тым часам Dana Holding мае 70 працэнтаў рэнтабельнасці, паўстае пытанне: што такога робіць гэтая кампанія, чаго не могуць зрабіць іншыя?» – кажа эксперт.

Раманчук тлумачыць, што будаўнічы рынак у нашай краіне – адзін з самых падзеленых.

«Тут асабліва сур'ёзна сутыкаюцца інтарэсы наменклатурна-сілавога і камерцыйнага блокаў. Адсюль і праблема – звычайныя людзі, звычайныя будаўнічыя кампаніі без «даху» не могуць канкураваць і вылятаюць з рынку. Тым больш што на нашых будаўнікоў вялікі попыт і ў Расіі, і ў Літве, і ў Польшчы – вось людзі і едуць туды за заробкам у паўтары тысячы долараў», – тлумачыць эканаміст.

(Белсат.)

КРЫМІНАЛ

# Асуджаны магілёўскі міліцыянт сядзіць з тымі, каго правакаваў на наркатычныя злачынствы

*Былы начальнік аднаго з раённых аддзелаў наркакантролю Магілёва Іван Пацёмкін адбывае 10-гадовае пакаранне з тымі, каго правакаваў на парушэнне закона і каго ў выніку асудзілі за наркотыкі.*

Адміністрацыя папраўчай установы загадала ім, каб былога міліцыянта не чапалі. Пра гэта расказала Радыё Свабода маці аднаго з асуджаных, які сядзіць у той жа калоніі, што і Пацёмкін.

Паводле слоў жанчыны, былы міліцыянт спрычыніўся да звальнення яе непаўналетняга сына, сведчыў супраць яго ў судзе і мае такі самы тэрмін пакарання. З умовай, што ў матэрыяле будуць зменены яе і сынава імёны, яна пагадзілася падзяліцца перажытым.

### «Паўналецце адзначыў у няволі. Віны не прызнаў»

Як апавядае **Святлана**, яе 17-гадовы сын **Ян** апынуўся ў «распрацоўцы» аддзела наркакантролю Ленінскага аддзела міліцыі Магілёва ў 2016 годзе. У лютым яму патэлефанавалі знаёмы, з якім не было кантактаў паўтара года, і папрасіў забраць у яго грошы, якія ён вінаваты іх агульнаму прыяцелю Дзмітрыю. Патлумачыў, што сам аддаць не можа, бо ляжыць у псіхіятрычнай бальніцы. Ян пагадзіўся. Праз два месяцы яго арыштавалі і абвінавацілі ў распаўсюджванні і ўжыванні наркотыкаў у групе асоб.

Паводле слоў Святланы, на следстве сын даведаўся, што перададзенымі ім грашыма разлічыліся за наркотыкі, якія былі ў схованцы. Хто зрабіў закладку, так і не высветлілі. Момант жа перадачы грошай Янам Дзмітрыю фіксавалі на відэа аператыўныя супрацоўнікі, сярод якіх быў і Пацёмкін. Так Ян стаў удзельнікам злачыннай групоўкі.

Арыштавалі яго ў красавіку 2016 года. У следчым ізалятары прабыў паўгода. Там адзначыў паўналецце. У верасні Ленінскі суд Магілёва прызнаў яго вінаватым у распаўсюджванні і ўжыванні наркотыкаў у групе асоб і адправіў у калонію на 10 гадоў. Святлана кажа, што сын не прызнаў віны. У апошнім слове ён сказаў, што схібіў, калі пагадзіўся дапамагчы прыяцелю, не высветліўшы ў яго прызначэнне грошай, якія меўся перадаць. На судзе «саўдзельнікаў» Яна не было, хоць іх імёны фігуравалі ў справе. Супраць хлопца сведчылі трое міліцыянтаў.

### Як Пацёмкін апынуўся за кратамі

Магілёўскі абласны суд разглядаў справу супраць капітана міліцыі Пацёмкіна ў 2018 годзе ў закрытым рэжыме. Матэрыялы яе захоўваюцца пад грыфам «Сакрэтна» і з'яўляюцца дзяржаўнай тайнай.

Пра знявольненне Пацёмкіна паведамілі сёлета 28 жніўня Генеральны пракурор **Аляксандр Канюк**. Асуджаны «для паляпшэння паказчыкаў працы правакаваў грамадзян, уцягнутых у незаконнае абарачэнне наркатычных і псіхатропных рэчываў, на іх набыццё і захоўванне дзеля далейшага затрымання і прыцягнення да крымінальнай адказнасці».

Іншых дэталяў справы Аляксандр Канюк раскрываць не стаў.

Радыё Свабода даведалася, што Івана Пацёмкіна прызналі вінаватым у незаконным абарачэнні наркатычных рэчываў з выкарыстаннем службовых паўнамоцтваў (частка 3 артыкула 328 Крымінальнага кодэкса), а таксама ў злоўжыванні ўладай і службовымі паўнамоцтвамі (арт.426).

Родныя Пацёмкіна лічаць, што ён стаў ахвярай сістэмы, а справай супраць яго займаўся КДБ. Спробы абскардзіць пакаранне не далі плёну.

### Маці асуджанага хлопца: «Абвінавачванне ў злачынстве за наркотыкі ўспрымалася як недарэчнасць»

Святлана кажа, што даведалася пра абвінавачванне сына ў красавіку 2016 года, калі да іх наведаліся міліцыянты Пацёмкін і Майсееў ды папрасілі праехаць у Следчы камітэт. У машыне раілі Яну ўспомніць, што ён рабіў у лютым. Адразу яны не назваліся супрацоўнікамі наркакантролю.

«Сын у машыне даводзіў мне, што незаконнага нічога не рабіў, а калі я даведалася, адкуль міліцыянты і што Ян замешаны ў справе з наркотыкамі, то была ў шоку», – успамінае падзеі трохгадовай даўнасці Святлана.

Яна кажа, што абвінавачванне ўспрымала як недарэчнасць. Лічыць, што сыны знаёмых былі адэкватнымі маладымі людзьмі і ніхто з іх не займаўся наркотыкамі.

Святлана ўспомніла хлопца, які папрасіў сына дапамагчы з адданнем пазыкі. Той таксама пэўны час быў у адной кампаніі з Янам. Але, калі стала вядома пра ягоную нарказалежнасць, зносіны з ім спыніліся. Зрэдку ён яшчэ з'яўляўся, але ненадоўга, а потым знік і праз паўтара года зноў патэлефанаваў Яну.

### Спрабаваў «псіхалагічна націснуць і выклікаць да сябе сімпатыю»

Пасля допыту ў Следчым камітэце Яна арыштавалі, а ў кватэры, дзе ён жыў з маці, правялі ператрус. Святлана кажа, што неўзабаве да яе прыйшоў Пацёмкін. Тады ён быў яшчэ шараговым аператыўным супрацоўнікам аддзела наркакантролю Ленінскага РАУС Магілёва. Ён спрабаваў «псіхалагічна націснуць і выклікаць да сябе сімпатыю».

«Пацёмкін пачаў з таго, што сын у ізалятары нагала пастрыжаны, кепска выглядае і ўжо ў шэрай робе. Прасіў, каб ён здаў саўдзельнікаў. Пераконваў, каб я не брала адваката, бо выкіну грошы на вецер. Сын жа атрымае 12 гадоў, зменяць уже нічога нельга», – апавядае Святлана.

Пазней на спатканні Ян пацвердзіў, што ў яго быў Пацёмкін. Хлопец сказаў маці, што міліцыянт застаўся незадаволеным, што ён «не хоча супрацоўнічаць са следствам». Калі Ян адмовіўся прызнаваць віну, Пацёмкін нібыта прыгразіў яму, «што зробіць усё, каб у маці канфіскавалі маёмасць».

### «Сакрэтнасць» справы міліцыянта ўскладняе абскарджванне прыгавору»

Святлана кажа, што Пацёмкін сведчыў у судзе супраць сына. Настойвалі на яго віне яшчэ двое яго калег, сярод якіх быў Майсееў. Паводле яе слоў, міліцыянты паводзілі сябе нахабна і развязна. Яны былі ўпэўнены, што Яну дадуць 10 гадоў, і не ўтойвалі, што на яго хацелі навязаць «нешта павесціць, але ён не паддаўся». З гэтага яна зрабіла выснову, што справа супраць сына – вынік правакацыі міліцыянтаў.

Паводле слоў Святланы, адвакат, калі пазнаёміўся з матэрыяламі сынавай справы, не ўтойваў, што абвінавачванні належным чынам падрыхтаваны і дамагчыся мякчэйшага пакарання будзе цяжка.

«Суд нават не разглядаў варыянт пакарання Яна паводле 1-й ці 2-й часткі 328-га артыкула, якія прадугледжваюць меншы тэрмін пакарання. Адразу прысудзілі тое, што было інкрымінавана сыну напачатку, – 3-ю частку 328-га артыкула, якая ў 2016-м прадугледжвала пакаранне да 15 гадоў пазбаўлення волі», – адзначае Святлана.

Спробы абскардзіць Янава пакаранне ў вышэйшых судовых інстанцыях плёну не далі. Святлана лічыць, што пасля таго, як Пацёмкіна асудзілі, з'явіўся шанец апратэставаць прыгавор суда. Адвакат жа лічыць, што «сакрэтнасць» справы міліцыянта ўскладняе сітуацыю з пратэстам.

### «На закрытым працэсе ўтойвалі механізм уцягвання людзей у незаконнае абарачэнне наркотыкаў»

Пра затрыманне Пацёмкіна Святлана даведалася на мяжы 2017-га і 2018 гадоў. Яна лічыць, што былога міліцыянта асудзілі справядліва, але не прымае таго, што працэс супраць яго быў закрытым.

«Чаму з справы Пацёмкіна зрабілі сакрэт, а нашых дзяцей нахабна абліваюць брудам на адкрытых судах і садзяць на шалёныя тэрміны? – абураецца суразмоўца. – Нішчаць іх фізічнае і псіхічнае здароўе. Дык няхай усе і пра справу Пацёмкіна ведаюць».

Святлана мяркуе, што на закрытым працэсе супраць Пацёмкіна ўтойваўся механізм уцягвання людзей у незаконнае абарачэнне наркотыкаў. Паводле яе меркавання, той чалавек, які ляжаў у вар'ятні і якому сын прывёз грошы, супрацоўнічаў з міліцыяй. На судзе ж гэтага «ўтойвалі, што і яму «нядоўга хадзіць на свабодзе». На працэсе яго не было.

З былым міліцыянтам сядзяць 12 чалавек, якія апынуліся ў няволі з яго «дапамогай».

Святлана здзівілася, калі даведалася са справы Пацёмкіна, што ён кіраваў аддзелам наркакантролю. Жанчына лічыць, што яго малі прызначыць на гэтую пасаду неўзабаве пасля суда над сынам.

«Прабыў ён у начальніках нядоўга, мо крыху больш за год. Мне вядома, што і другі супрацоўнік наркакантролю, які вінаваціў сына ў распаўсюджванні наркотыкаў, Майсееў, таксама звольнены з органаў, але што з ім, не вядома», – кажа Святлана.

Паводле яе слоў, сядзіць Пацёмкін у адной калоніі з асуджанымі за наркотыкі. Сярод іх 12 чалавек, якія апынуліся ў вязніцы з ягонай «дапамогай», кажа жанчына.

«З кожным гаварыла кіраўніцтва калоніі і дало зразумець, што чапаць яго не варта, бо былы міліцыянт на асабліным становішчы», – адзначае Святлана.

### «Стаўленне да асуджаных за наркотыкі не змянілася»

Святланы распавядае, што за тры гады сынавай няволі стаўленне да асуджаных паводле наркатычных артыкулаў не змянілася. Яны, як і раней, маюць зялёныя біркі. Абмежаванняў у іх больш, чым у іншых катэгорый зняволеных. Ім даюць працу, якая горш аплачваецца.

«Хлопцы з апошніх сіл стараюцца вызначаць сабе мэты, неяк акрэсліваць перспектывы, але ў іх не дужа добра выходзіць», – кажа яна.

Сын, кажа яна, наракае, што асуджаным за наркотыкі псіхалагічна і маральна дужа цяжка. У Яна «паніклы позірк і вочы без жыцця», адзначае жанчына. Калі сустракаецца з ім, адчувае пастаяннае нервовае напружанне.

Спасылаючыся на сынавы словы, Святлана адзначае, што Пацёмкін можа выйсці на свабоду праз 3–4 гады. Астатнія ж будуць сядзець «ад званка да званка».

### Адзін з тысячы асуджаных за наркотыкі

У 2016 годзе за незаконнае абарачэнне наркатычных рэчываў асудзілі 1089 чалавек паводле 2-й, 3-й, 4-й і 5-й частак 328-га артыкула Крымінальнага кодэкса. У наступныя гады, паводле інфармацыі з афіцыйных крыніц, садзіць за наркотыкі сталі меней.

У 2017 годзе юрыст **Міхаіл Пастухоў** адзначаў, што адпраўным пунктам у жорсткім стаўленні да затрыманых за наркотыкі стаў дэкрэт прэзідэнта №6 «Аб неадкладных захадах у супрацьдзеянні незаконнаму абарачэнню наркотыкаў». Ён пачаў дзейнічаць з 1 студзеня 2015 года.

2 верасня 2019 года Аляксандр Лукашэнка дапусціў магчымасць змен у антынаркатычным заканадаўстве і прызнаў, што «дзесьці мы, напэўна, перагнулі».

«Штосьці ў антынаркатычнага заканадаўства, мы перакаваліся, што мы жарсткавата гэта зрабілі. Адпусцім, але трохі», – удакладніў ён.

20 жніўня на нарадзе з прадстаўнікамі праваахоўных органаў Аляксандр Лукашэнка ўчыніў разнос на нарадзе з прадстаўнікамі праваахоўных органаў. Спасылаючыся на сакрэтны даклад, ён заявіў пра фальсіфікацыі «наркатычных» крымінальных спраў з боку следчых і пракурораў.

Паводле слоў Лукашэнкі, у людзей «часам складваецца ўражанне, што супрацоўнікаў праваахоўных органаў найперш цікавяць не жыццё і лёс чалавека, а лічбы і рэйтынгі, якімі вымяраецца эфектыўнасць іх працы», а фальсіфікацыі такія, што «лепей бы вы не пачыналі гэтых крымінальных справы».

НЕЗВЫЧАЙНЫ ЛЁС

# Абуджэнне Станіслава Цыбінскага

*Пасля 15 гадоў, праведзеных у турме за забойства чалавека, Станіслаў Цыбінскі вось ужо паўтара года на волі намагаецца знайсці свой шлях у жыцці. Працуе афіцыянтам у двух гродзенскіх рэстаранах і большую частку зробленых грошай траціць на дапамогу былым зняволеным, адпраўляе пасылкі ў турму тым, каму ніхто нічога не шле. І ходзіць па чыноўніцкіх кабінетах, каб зарэгістраваць дабрачынную арганізацыю «Рука дапамогі», бо ведае, што многім людзям у нашай краіне трэба дапамагчы ў жыцці. Ёсць і іншыя планы.*

### Тое, што ўжо ў мінулым

Ён знешне зусім не падобны на чалавека з крымінальным мінулым. Белая кашуля, адпрасаваныя нагавіцы, чысты твар. Невысокага росту, сціплы, вельмі адкрыты да размовы, вочы не адводзіць убок.

Яго лёс не пажадаеш нікому, але ён такі, які ёсць. Сірата. Калі памёр бацька, Станіслаў быў яшчэ немаўлём, маці сышла з хаты, папросту кінуўшы яго. Выхоўваўся ў дзіцячым доме, на лета дамоў забірала бабуля.

Ён забіў хлопца, які згвалціў яго дзяўчыну. Паваліў на зямлю і біў па-вар'яцку нагамі. У ахвяры было зламана рабро, яно прабіла лёгкае, што стала прычынай смерці.

«Любоў – першы светлы прамень, што з'явіўся ў маім жыцці, – згадвае Цыбінскі. – Я быў малады, безразважны і, на жаль, здзейсніў гэты жудасны ўчынак...»

Пасля турмы Станіслаў паехаў да маці забітага хлопца і папрасіў прабачэння. Яны доўга разам плакалі, а потым жанчына сказала: «Ты забраў у мяне сына, то цяпер будзеш мне за сына«. Цяпер ён часта тэлефануе ёй, наведвае.

Дзяўчына, якую кахаў, лістоў у турму не пісала, хаця ён вельмі чакаў. Цяпер яна выхоўвае сваіх дзетак, а Станіслаў кажа, што каханне прайшло і ў яго.

### Пасля турмы не ведаў, куды ісці і што рабіць

У турме, як згадвае Станіслаў, давялося пабачыць шмат чаго страшнага, але самым вялікім жаданнем было выйсці на волю, ізноў адчуць сябе чалавекам і дапамагаць іншым людзям.



Аказалася, што на волі папросту няма дзе жыць. Бабуля, якая была ягонай апякункай, памерла, кватэру забрала дзяржава. Статус сіраты, з якім ён мог мець ільготы на жыллё, быў даўно страчаны па ўзросце.

У яго пяць розных рабочых прафесій, але на працу нідзе не бралі, калі даведваліся, што быў асуджаны, толькі пацiскалі плячыма.

«Неяк уладкаваўся ў Дом культуры ў Шчучынскім раёне, працаваў з моладдзю, рабіў для іх вечары адпачынку. Усе былі задаволены, але, як толькі дырэктарка даведалася пра маю судзімасць, адразу звольнілі», – згадвае Станіслаў.

А потым пачалося страшнае. Неяк некалькі дзён нічога не трымаў у роце. Есці хацелася так, што глядзеў на вітрыну крамы і думаў: вось бы разбіць яе і ўдосталь пад'есці, а там будзь што будзе. Але ж зарокся, што ніколі гэтага не зробіць.

«Хадзіў у міліцыю, прасіў, каб дапамаглі ўладкавацца на працу, але там толькі развoдзілі рукамі, – распавядае Станіслаў. – Начаваў у Гродне на вакзале, мыўся ў прыбіральні. Прасіў у людзей паесці, а яны ў адказ, здаралася, давалі выспятка: маўляў, ідзі працуй! Я паказваў ім сваю даведку аб вызваленні, тлумачыў, што нідзе не бяруць на працу...»

«Тады зразумеў, што ні на волі, ні ў турме чалавек нікому ў нашай краіне не патрэбны, пра яго ніхто не паклапоціцца, калі раптам ён акажацца ў такой сітуацыі, – робіць высновы мужчына. – Ты ідзеш да кіраўніка горада, у розныя службы, распавядаеш ім пра сваю сітуацыю, а там альбо разводзяць рукамі, альбо кажуць, што трэба зрабіць даведку, прайсці камісію... А мне няма дзе начаваць і няма чаго есці...».

Станіслаў упэўнены, што людзьмі кіруе асцярога: навошта мы будзем браць на сябе адказнасць за былога асуджанага – раптам ён ізноў кудысьці ўлезе, а нам потым адказваць?..

### Адзін чалавек можа зрабіць болей, чым цэлая дзяржава

У пошуках жылля і ежы Станіслаў даходзіў да адчаю.

«І тут падыходзіць сталая жанчына, дастае з сумкі каўбасу, сыр, батон і працягвае мне – згадвае Станіслаў. – Я кажу, што столькі не патрэбна, перапрошваю, прызнаюся, што мне сорамна. А яна ў адказ: бяры, унучак! І вось гэта слова – «унучак» – добрае, цёплае, чалавечае... Я еў і плакаў».

Тады ён і зразумеў, што адзін чалавек для другога можа зрабіць больш, чым цэлы дзяржаўны апарат.

Нейкі час ён падпрацоўваў грузчыкам, начаваў дзе давoдзілася, а потым удалося ўладкавацца афіцыянтам у рэстаран. Гаспадар, не зважаючы на даведку аб вызваленні, яшчэ і дапамог атрымаць інтэрнат, дзе Станіслаў зараз жыве.

Умовы пражывання аскетычныя: з мэблі – шафа, канапа, невялікая тумбачка і стол. З маленькіх калонак гучыць прыгожая музыка.

Кухня, душавая і прыбіральня – агульныя, у калідоры.

### Зараз галоўнае – зарэгістраваць дабрачынную арганізацыю «Рука дапамогі»

Цяпер Станіслаў працуе штодня. «Працуючы на дзвюх работах афіцыянтам, я маю штомесяц каля 1300 рублёў. Сабе пакідаю столькі, каб хапіла заплаціць за інтэрнат, пакласці на тэлефон і інтэрнэт. Кормяць мяне на працы дармова, – распавядае Станіслаў. – На астатнія грошы закупляю харчы, прадметы першай неабходнасці для асуджаных і дасылаю усё гэта ім».

Цыбінскі распавядае, што яму многія пішуць з калоній і просяць дапамагчы. Акрамя гэтага, шмат тых, хто вызваліўся з месцаў пазбаўлення волі і прыходзіць да яго таксама па дапамогу.

«Па першым часе я дапамагаю ім адзеннем, абуткам, харчамі, – распавядае мужчына. – Я нават здзіўляюся, як шмат людзей так хутка даведаліся пра маю дзейнасць. Вось апошнім прыходзіў мужчына, дык яму мой адрас далі ў лютэранскай царкве. Мне дзіўна, бо я сам там ніколі не бываў».

Станіслаў добра разумее, што былым зняволеным патрэбна дапамога не толькі з адзеннем і ежай, але і з пошукам працы, з афармленнем дакументаў. Разам з прыяцелямі, якія таксама некалі сядзелі ў калоніі, Цыбінскі арганізаваў грамадска-інфармацыйную пляцоўку «Беларускі цэнтр падтрымкі», а пад Шчучынам стварае цэнтр па рэсацыялізацыі тых, хто вызваліўся.

«Нядаўна я яшчэ дамовіўся з уласнікам аграсядзібы побач з Каробчыцамі ў Гродзенскім раёне і пасылаю туды былых зняволеных на падпрацоўку, – распавядае Цыбінскі. – Яны там выконваюць сезонныя працы, атрымліваюць заробак кожны дзень ды яшчэ і маюць бясплатны абед».

Самае складанае, са слоў Цыбінскага, вырашыць жыллёвую праблему для асуджаных, паколькі амаль усе яны пасля вызвалення не маюць дзе жыць. Праўда, цяпер Станіслаў не адзін: у яго ёсць памочнікі з ліку былых асуджаных, якія здолелі нармалізаваць сваё жыццё і не забыліся пра тое, як ім у свой час дапамаглі.

«Мяне зараз турбуе яшчэ адна рэч. Апошнім часам да мяне па дапамогу звярнуліся дзве сям'і, у якіх няма асуджаных, – кажа Цыбінскі. – Ім папросту не хапае грошай на жыццё. Мы дапамаглі ім некалькі разоў харчамі, але гэта вельмі сціплая дапамога для сям'і, дзе гадуюцца дзеці».

Менавіта таму Станіслаў і вырашыў стварыць дабрачынную арганізацыю «Рука дапамогі», каб дапамагаць усім, каму гэта патрэбна.

### Ёсць асабістыя планы

За ўвесь час нашай размовы Станіслаў, якому крыху больш за 30, ні разу не ўзгадаў пра свае асабістыя планы. Я пацікавіўся: ці плануе ўладкоўваць асабістае жыццё?

Аказваецца, і з гэтым у былога асуджанага ўсё не так проста. Ён сябраваў з некалькімі дзяўчатамі, але пасля таго, як іх бацькі даведваліся, што Станіслаў сядзеў у турме, даверныя адносіны спыняліся.

«Канешне, я думаю пра тое, каб стварыць сям'ю. Зараз перапісваюся з дзяўчынай, якая адбывае пакаранне, – кажа Станіслаў. – Яна інтраверт, як і я, і вельмі добры чалавек. Магчыма, у нас нешта і атрымаецца…»

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ



Алесь СІВЫ

## Чаму мне падабаюцца такія «Зубры»

Чэмпіянат КХЛ стартаваў, як стартавала ў ім у чарговы раз і мінскае «Дынама». Абноўленае. Беларусь апошнім часам наогул стала краінай хакейных эксперыментаў, калі стратэгічныя рашэнні прымаюцца не заўсёды хакейнымі спецыялістамі, таму вынікі раз-пораз прабіваюць дно. Напрыклад, у мінулым сезоне балельшчыкі казалі пра «Зубраў» прыкладна так: хутчэй бы закончыліся іх пакуты.

Але ў гэтым годзе кіраўніцтва клуба вырашыла кардынальным чынам рэфармавацца, вырашыўшы, што ў тую ж самую ваду можна зайсці двойчы. І запрасіла на пасаду галоўнага трэнера канадца Крэйга Вудкрафта, які ў свой час ужо ўзначальваў «Дынама» і якога ў 2017 годзе, можна сказаць, са скандалам звольнілі.

*«Пасля чэмпіянату свету – 2017 мы вярнуліся ў Мінск з Парыжа,* – распавёў канадзец. – *Тады я ўпершыню пачуў з некаторых крыніц, убачыў у прэсе інфармацыю пра тое, што «Дынама» збіраецца звольніць замежных ігракоў і трэнераў. Казалі і пра іншыя новаўвядзенні. Для мяне гэта азначала поўную змену нашага курсу. Вырашана было адмовіцца ад усяго таго, што мы прыўнеслі ў клуб, ад таго, што зрабіла яго паспяховым!*

*Ніхто не патлумачыў, чаму так адбылося. Кіраўніцтва клуба, напэўна, выбрала свой накірунак развіцця. Бурба (*Павел Бурба выконваў абавязкі генеральнага дырэктара мінскага «Дынама». – **Аўт.***) больш не працаваў – яго месца заняў іншы дырэктар (*Анатоль Курылец*). Усё, што я прапаноўваў, больш не было цікавым і неабходным – яны лепш ведалі, што рабіць дзеля таго, каб дасягнуць поспеху ў будучым… Менавіта ў гэты час я і вырашыў пакінуць «Дынама».*

Калі хто не ведае, то вялікі знаўца апошніх тэндэнцый сучаснага хакея Анатоль Курылец – былы намеснік міністра ўнутраных спраў, які, аказваецца, добра разбіраецца не толькі ў навядзенні парадку ў краіне, але і ў тым, як весці «Дынама» да новых вышынь.

Але Курыльца сёння ў клубе ўжо няма, а Крэйга Вудкрафта вырашылі вярнуць, і, на мой погляд, рашэнне абсалютна слушнае. Ва ўсялякім выпадку пры канадцы «Зубры» мелі твар, хакеісты біліся да апошняга, перамагаючы ў неверагодна драматычных матчах.

Праўда, сёння сітуацыя крыху іншая. Пасля таго як у мінулым годзе зборная Беларусі вылецела з элітнага дывізіёна, было вырашана паставіць «Дынама» першнаперш на службу нацыянальнай камандзе, хаця пра гэта кажуць яшчэ пачынаючы з 2008 года, калі «Зубры» стартавалі ў чэмпіянаце Кантынентальнай хакейнай лігі.

У любым выпадку трэнерскі штаб «Дынама», куды ўвайшоў і вядомы па выступленнях ў НХЛ Міхаіл Грабоўскі, зараз знаходзіцца ў куды больш сціплых умовах, чым іх папярэднікі, скажам, пяць-шэсць гадоў таму. Паводле слоў генеральнага дырэктара «Дынама» Дзмітрыя Баскава (дарэчы, у мінулым прафесійнага хакеіста), бюджэт клуба скараціўся ў паўтара раза, а заробкі ігракоў таксама на парадак зменшыліся. Далі шанц паспрабаваць свае сілы і многім маладым, «неабстраляным» беларускім хакеістам, для якіх КХЛ павінна стаць добрай школай. Хаця і відавочна, што многія з іх яшчэ не могуць на роўных сапернічаць з вопытнымі калегамі з іншых клубаў.

Але радуе хаця б тое, што трэнеры нацэльваюць ігракоў на атаку, хакеісты даволі шмат забіваюць, хаця абарона і варатарская лінія яшчэ кульгаюць. З чатырох праведзеных матчаў «Дынама» выйграла толькі адзін, але гэта менавіта той эксперымент, за які можна пахваліць. Асабіста мне такія «Зубры» падабаюцца куды больш, чым тыя, якіх я бачыў у мінулым сезоне. Трэнеры не баяцца даваць дарогу моладзі, і, на мой погляд, за гэтым будучыня. А выступленне нацыянальнай зборнай якраз і будзе той самай лакмусавай паперкай, якая пакажа якасць працы клуба і трэнерскага штаба. Калі, натуральна, Вудкрафта зноў не выганяць з каманды…

НА СТАРТ!

## Сколько участников соберет Минский полумарафон?

*В прошлом году забег собрал рекордные 35 тысяч человек из 53 стран.*

Нынешний полумарафон пройдет 15 сентября, это самый массовый забег в стране, который проводится с 2013 года на празднование Дня города. В нем участвуют как любители, так и профессионалы из разных стран мира.

В предыдущем году среди участников были политики, дипломаты, послы, руководители крупных предприятий, главы правления банков, известные спортсмены, телеведущие и медийные личности.

Кстати, самым «взрослым» участником Минского полумарафона – 2018 был Леонид Куркович. На момент забега ему исполнилось 83 года. А житель Молодечно Александр Тимофейко (еще один участник из группы «70 плюс») преодолел 21 километр за 1 час 57 минут 10 секунд.

**Сергей НИКАНОРОВ.**

КРЫЖАВАНКА

## Ягадна-мядовы карагод



**Па гарызанталі:** 1. … – да зерня, ягада – да ягады (прык.). 5. «Бо чужая …, як асінка горка. // А я ж маладзенька, // Як мёд, саладзенька» (прыпеўка). 7. «Янка сее кавуны, а я …». З беларускай народнай песні «Стаіць Янка на гары». 10. Летам самы страшны … – камар (прык.). 11. З мёдам і … – маліна (прык.). 12. Карціна на палатне, якая пастаянна займае ўчастак сцяны. 15. Раструбы ў пальчатках. 16. Любіш мёд – пераносі і пчалінае … (прык.). 17. Той, хто добра лятае. 18. Пчолка … вулей знае, толькі з адной сямейкай дажывае (прык.). 20. «І тут найсаладзейшыя суніцы, // І тут найлагаднейшая …». З верша Ст. Валодзькі «Бацькоўскі кут». 21. «Адна вішанька высока, а … нізка, // Адна мілачка далёка, а другая блізка» (прыпеўка). 24. Месца, па якім сцякае вада. 27. «А мой міленькі высокі – // Толькі вішанькі шчыпаць. // Яго … салодкі – // Толькі дзевак цалаваць» (прыпеўка). 28. «А нізам песціцца з шыпшыннікам каліна, // І туліць да малін свой чорны твар …». З паэмы А. Міцкевіча «Пан Тадэвуш». 29. «Не губляйце пачуццё гумару. … для чалавека, што водар для ружы» (Д. Галсуорсі).

**Па вертыкалі:** 1. Тое, што і звязка. 2. Ягада вінная – … дзіўная (прык.). 3. Яравая пшаніца (разм). 4. Буйназярністы снег у гарах. 5. У цяжкай атлетыцы падняцце штангі на грудзі. 6. Дачка ягады ела, а ў маці … (прык.). 8. У мовазнаўстве: сэнс, значэнне. 9. «Едуць у брусніцы // Дзеўкі, …, // А Міхася цягне // Бор і хваінячок». З паэмы Я. Коласа «Міхасёвы прыгоды». 13. «Каля саду хадзіла // Ды шчыпала …, // Дай жа, божа, кавалера // Ды пад мае мыслі». З беларускай народнай песні «Чабарок». 14. Перавернуты пласт зямлі. 17. «Самы чысты мёд на сталы – //… ліпеня». З верша Е.Лось «… ліпеня». 19. Салодкі сок, які выдзяляецца кветкамі меданосных раслін. 22. … і туман прадказваюць добрае надвор'е (прык.). 23. Медны духавы інструмент. 25. Адна ралля – … сярпы, дзве раллі – тры сярпы (прык.). 26. Імгненне.

### Адказы:

**Па гарызанталі:** 1.Зерне. 5.Жонка. 7.Журавіны. 10.Звер. 11.Каліна. 12.Пано. 15.Крагі. 16.Джала. 17.Лятун. 18.Адзін. 20.Рака. 21.Другая. 24.Сцёк. 27.Вусенькі. 28.Ажына. 29.Гумар.

**Па вертыкалі:** 1.Звязак. 2.Ежа. 3.Ярка. 4.Фірн. 5.Жым. 6.Аскома. 8.Семантыка. 9.Маладзіцы. 13.Вішні. 14.Адвал. 17.Лірыка. 19.Нектар. 22.Раса. 23.Альт. 25.Два. 26.Міг.

**Лявон ЦЕЛЕШ.**

*г.Дзяржынск.*

ШАШКІ

### Завяршальны тур памятнага конкурсу

Прапануем заданні апошняга тура конкурсу рашэння памяці **Мікалая Грушэўскага** на прызы з яго бібліятэкі. Прапануюцца шэсць пазіцый з заданнем знайсці выйгрыш за белых пры іх першым ходзе.

***Мікалай Грушэўскі:***



№1 (гл.дыяграму) **Белыя**: b2, c1, c7,g1, h2, h6 (6).

**Чорныя**: b8, c3, d4, d6, e5, f6, h4 (7).

№2 **Белыя**: c1, d2, d4, d6, h2, h6 (6).

**Чорныя**: a5, b4, b8, d8, f4, f8, g3, g7 (8).

№3 **Белыя**: a1, b2, c1, d2, d4, e1, e5, g1, h6 (9).

**Чорныя**: a5, a7, b4, c3, c7, d6, f6, f8, g7, h4 (10).

***Іван Наўроцкі:***

№4 **Белыя**: b2, d6, e7, g3, h4 (5).

**Чорныя**: a3, b4, b6, c5, f8, g7 (6).

***Іван Івацка:***

№5 **Белыя**: a1, b4, c1, e1, e3, f2, f4, g3 (8).

**Чорныя**: a3, c5, d6, f6, g5, h6 (6).

***Сяргей Губачкін:***

№6 **Белыя**: b6, c7, d4, d6, e5, f6, g3 (7).

**Чорныя**: a7, b2, b4, f4, f8, h2 (6).

### Эксперыменты шашачнай кампазіцыі

У апошні час на шашачных сайтах усё часцей сталі з'яўляцца эксперыментальныя шашачныя задачы, дзе ў кожным варыянце гульні замыкаецца розная колькасць шашачнага матэрыялу. Адзін з такіх твораў даслаў вядомы ўкраінскі майстар **Уладзімір Рычка**.

№7 **Белыя**: шашкі 31, 39, 41, 47, 50, дамкі 6, 8, 12, 27 (9).

**Чорныя**: шашкі 1, 36, 40, 45 (4).



Белыя замыкаюць дамку і дзве шашкі або дамку і шашку чорных [**(47)**,36,45 – **(50)**,36]; 24(44**А**),12-21,38,47-42,11,27-32,41; **А**(7),1,21!,24-42,39,26,31,50-44,45.

Другая задача ўкраінскага аўтара носіць звычайны характар: замкнуць дамку і дзве шашкі.

№8 **Белыя**: шашкі 21, 47, 48, 50, дамкі 15, 26, 27, 41 (8).

**Чорныя**: шашкі 16, 30, 36, 45 (4).

[**(49)**,44,45 – **(47)**,36,45]; 19(34**А**),30,48-43,33(34),33-39,26-31,27-32!(16:49),32!,43,38; **А**(35),33,39,38!,38(27),48-42,31,41.

Наступныя міжнародныя пазіцыі даслаў другі ўкраінскі аўтар – **Валерый Кручкоў**.

№9 **Белыя**: 21, 28, 31, 33, 41, 44, 45 (7).

**Чорныя**: 9, 10, 12, 19, 24, 35, 39, 43 (8)

45-40, 23, 3, 5 х.

№10 **Белыя**: 7, 11, 27, 32, 37, 41, 43 (7).

**Чорныя**: 6, 10, 18, 22, 23, 28, 33 (7).

2, 19, 48, 38, 5 х.

№11 **Белыя**: 16, 22, 28, 31, 32, 33, 34, 41, 45 (9).

**Чорныя**: 6, 9, 12, 19, 25, 26, 30, 39, 43, 44 (10).

11, 23, 3, 41, 34 х.

Падзяліўся сваім творам і **Генадзь Андрэеў.**

№12 **Белыя**: 18, 22, 23, 24, 25 28, 29, 30, 31, 41, 48, 49 (12).

**Чорныя**: 7, 8, 14, 15, 21, 34, 35, 38, 39, 40 (10).

49-43, 43, 12, 22, 3, 26, 8, 10, 14 х.

### Падводзім вынікі

Бліц-конкурс на прызы **Леаніда Жыхара** («Народная Воля» ад 9 ліпеня 2019 г.).

**№5** – f6(g7), d4, c5, f4, h8 x.

**№6** – c3, g3, c7, b2, de5, c7, d8 x.

**№7** – b8, c7, fe5(d2), g5(d6), c1, a5 x.

Пераможцам конкурсу прызнаны **Уладзімір Бандарык**.

**№1** – dc5, b2, b6, a7, e7, e7, b8 x.

**№2** – g5, e7, a3, e3(d4, g3), b6, h2 x.

**№3** – e3, d6, d2, h8, a3, c3, h2 x.

Калі пераставіць шашку a5 на a3, то атрымліваецца пазіцыя Дзмітрыя Салаўёва, якую ён даслаў на чэмпіянат Беларусі 2019 года па-за конкурсам. За ім застаецца прыярытэт аўтарства.

**№4** –b8, e5, f4, g3, c3, e3 x.

Адказы даслалі: **Аляксандра Камінская** (Вілейка), **Юрый Голікаў** (Цвер, Расія), **Эдуард Дамброўскі, Віталь Варушыла, Іван Наўроцкі**, (Мінск), **Аляксандр Шурпін** (Клімавічы), **Уладзімір Бандарык** (в. Лугавая Слабада Мінскага раёна), **Рыгор Краўцоў** (в.Рублёўск Круглянскага раёна), **Уладзімір Валчкоў** (Маладзечна), **Леанід Жыхар, Фёдар Карпей** (Мядзел), **Ігар Ананіч** (Гродна), **Уладзімір Панько** (Камянец), **Сяргей Бурко** (Орша), **Анатолій Чумакоў** (Светлагорск), **Валерый Бандаранка** (в.Выжары Магілёўскай вобл.), **В.Бялоў** (Магілёў).

Дзякуем за лісты і спадзяёмся на вашу далейшую актыўнасць!

Свае лісты дасылайце на адрас:

***220030 Мінск, вул. Энгельса, 34а, «Шашкі»***

або на электронны адрас рэдакцыі: ***shulga.checkers@gmail.com***.

**Віктар ШУЛЬГА,**

**міжнародны майстар спорту па шашачнай кампазіцыі.**

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.

Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.

Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.

nvonlineinfo@gmail.com

http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:

63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,

632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Галоўны рэдактар

Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ



Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 09.09.2019 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 22 160 экз. Заказ № 3045.

9 772071 964000 19071